# ПРАЦАЎНІК АСЬВЕТЫ

Дадатак да газэты „САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ“

№ 16 23 сьнежня 1928 г. № 16


ЗЬМЕСТ.



# Каго і як рыхтуе пэдфак БДУ?

Пэдфак БДзУ за апошнія гады мае шмат дасягненьняў у сэнсе пастаноўкі працы па набыцьцю студэнтамі фармальных ведаў, але гэтага нельга сказаць у адносінах мэтадычна-пэдагагічнай падрыхтоўкі. Апошняя да гэтага часу змушае жадаць шмат лепшага. Пэдфак павінен даць будучаму настаўніку належныя спэцыяльныя веды, выпрацаваць у яго сталы марксысцкі сьветапагляд і ўзброіць мэтадычна-пэдагагічным тактам.

Толькі з гэтакім багажом магчыма накіроўвацца ў школу, каб быць там карысным працаўніком.

Вось гэтыя тры бакі працы, складаючыя пэдфакаўскую трыяду, ня маюць аднолькавай да сябе ўвагі,—апошнія два моманты яшчэ не набылі належнай вострасьці.

**Зараз неабходна ва ўсёй шырыні ставіць пытаньне аб пэдагагізацыі пэдфаку.** Пастаноўка выкладаньня пэдагагічных дысцыплін нікуды ня варта, што паглыбляецца яшчэ дрэннымі адносінамі да гэтай галіны з боку значнага ліку студэнтаў. Пэдагагічная практыка, якую павінен адбыць кожны студэнт, амаль-што нічога яму не дае. Ну, што можа даць студэнту практыка ў працягу некалькіх тыдняў, якая заключаецца ў пасыўным назіраньні таго, што робіцца ў школе, падлік вучняў, зьбіраньне статыстычных вестак і інш. Акордам усёй гэтай «практыкі» зьяўляецца пробная лекцыя ў працягу 45 хвілін—і ўсё скончана. Да гэтага трэба яшчэ дадаць, што ўся практыка праходзіць у адной вопытна-паказальнай школе пры факультэце, якую магчыма назваць «вопытна-паказальнай» хібы таму, што яна дае яскравы прыклад—як **ня трэба** арганізоўваць працу, як ня трэба выхоўваць дзяцей. Школа ня мае нават патрэбнага абсталяваньня.

Пытаньне практыкі неабходна пераглядзець, рашучым чынам зьмяніць яе з тым, каб яна дала студэнту хоць-бы больш-менш грунтоўнае азнаямленьне з пастаноўкай школьнай працы. На апошнім курсе пэдфаку ў сярэднім бывае каля 200 студэнтаў. Чаму-б не разьмеркаваць гэтых студэнтаў па ўсіх менскіх школах? Гэта зусім не загрузіць школы, бо прыдзецца па 6-7 студэнтаў на адну школу. Такое прымацаваньне студэнтаў апошняга курсу для практыкі на працягу ўсяго году, бязумоўна, ажывіла-б працу і дало-б значна больш карысьці. Разам з гэтым пэдагагічная практыка павінна быць арганізавана і ў вясковых і мястэчковых школах у часе зімовых вакацый у унівэрсытэце, што дасьць магчымасьць студэнту ўсебакова азнаёміцца з працай вясковай школы. Толькі такая сталая практыка ў працягу году зможа даць пэдфакаўцу патрэбны мінімум практычных навыкаў.

Пэдфакавец не знаём і са зьместам новых праграм, зьместам школьных падручнікаў. Пагружаючыся ў свае спэцыяльныя дысцыпліны, якія, бясспрэчна, патрэбны, ён часта забывае пра тое, што непасрэдна неабходна будзе ў школе. Выправіць гэту хібу магчыма было-б увядзеньнем адпаведнага сэмінару па праграмах і падручніках. За гэта ў адзін голас выказваюцца і амаль-што ўсе скончыўшыя пэдфак у мінулыя гады.

Мае вялікае значэньне і сувязь пэдфаку з былымі сваімі студэнтамі, бо на першых кроках працы малады настаўнік адчувае вострую патрэбу ў дапамозе з боку сваёй унівэрсытэцкай сям'і. У мінулым годзе па ініцыятыве студэнцтва было арганізавана пры дэканаце пэдфаку бюро сувязі са скончыўшымі, але яно хутка замёрла, існуючы і зараз толькі на паперы. Сувязь са скончыўшымі мае вялікае значэньне, яе дабівацца амаль-што ўсе былыя пэдфакаўцы, якія знаходзяцца зараз па раёнах.

Пэдфак і наогул не зьяўляецца яшчэ асяродкам пэдагагічнай асьветы Беларусі,—гэтакім ён павінен быў-бы быць. Недахоп працаўнікоў, які будзе адчувацца пры ажыцьцяўленьні пяцігадовага пляну, а таксама падняцьце кваліфікацыі настаўнікаў, якія ня маюць спэцыяльнай адукацыі,—усё гэта накладае пэўны абавязак на пэдфак.

Пэдфак дае больш-менш добра падрыхтаванага грамадазнаўцу, лінгвіста, матэматыка, але зусім слаба падрыхтаванага пэдагога-мэтадыста. Трэба больш уцягнуць студэнтаў апошніх курсаў у саюзнае жыцьцё, у працу менскіх асьветнікаў, каб пасьля ім лягчэй было на раёне ўліцца ў асьветніцкую армію. Трэба таксама наладзіць больш цесную сувязь з Наркамасьветы. Толькі шчыльная сувязь пэдфаку з вытворчасьцю дасьць каштоўных працаўнікоў новай школе.

Існуючая зараз шматпрадмэтнасьць на пэдфаку таксама вымагае некаторага спрашчэньня.

Т. Гурвіч.

# Школьная зямля—бяльмо на воку.

У жыцьці вясковых школ да гэтага часу школьныя зямельныя дзялянкі зьяўляюцца бяльмом на воку. Будзь то сход бацькоў вучняў, справаздача РВК або іншы сход сялян, які тычыцца гаспадарчага боку школ, за ўсёды сяляне памянуць, што з зямельных дзялянак школам няма ніякай карысьці, што толькі дарэмна зямля марнуецца. На адным са сходаў пры зямляўпарадкаваньні сяляне ледзь згадзіліся выразаць школе дзялянку. «Зямлі недахоп. Колькі ні надзяляй, а зямля ўсё роўна будзе пуставаць. Усё роўна нічога ня выйдзе—ні богу сьвечка, ні чорту качарга“, так казалі сяляне на сходзе. Гэтым яны яскрава падкрэсьлілі, што школьныя зямельныя дзялянкі далёка не апраўдваюць свайго прызначэньня.

Што-ж дзеецца на школьных зямельных дзялянках у сучасны момант? Пра адны—зусім забыліся. Яны заабложылі, некалькі гадоў іх ніхто ня паша.

Іншыя хоць і апрацоўваюцца, але толькі дзеля прылікі; вядома, і ўраджай з іх, як кажуць, «зярнятка зярнятку гукае».

Ёсьць і такія, над якімі занадта шчыра працуюць, і за год, за два ўсе сокі павыціскаюць.

Такі лёс тых дзялянак, якія здаюцца ў арэнду.

Практыкуюцца два віды арэнды школьных дзялянак: першы, калі ў арэнду бярэ настаўнік; яму робіцца льгота—скідка да 80 проц. Гэта больш распаўсюджаны від арэнды; другі, калі дзялянку арандуюць сяляне.

Іншы раз арэндныя грошы скарыстоўваюцца не па простаму прызначэньню, а ідуць на розныя патрэбы па каштарысу РВК, і таму РВК часам вельмі ахвочы бываюць да здачы школьнай зямлі ў арэнду.

Асабліва блага з тымі зямельнымі дзялянкамі, якія арандуюць сяляне і над якімі няма гаспадарчага вока. Ніхто ня цікавіцца тым, як эксплёатуецца дзялянка, як даглядаецца, як угнойваецца і г. д. А арандатары гэтым і карыстаюцца, абы больш прыбытку. Ну, і вядома, што к канцу арэнды гэта дзялянка канчаткова апусташаецца і пераходзіць пад аблогу.

Незавідная справа, калі дзялянку арандуе і настаўнік: ён мала адрозьніваецца ад звычайнага арандатара-селяніна.

Значная частка настаўнікаў і рада была-б працаваць як належыць, але-ж яны ня ведаюць, як весьці гэту справу. Таму яны змушаны наймаць для апрацоўкі сялян, якія і вядуць гаспадарку як умеюць,—дзедаўскім спосабам.

І толькі ў рэдкіх школах праца на школьнай зямлі наладжана больш-менш прыстойна.

З боку адпаведных устаноў ёсьць імкненьне зрабіць школьныя дзялянкі ўзорнымі, дасьледчымі, але на мясцох не падрыхтавана да гэтага глеба, няма належных умоў. Вось цяпер, у зімовы час, і трэба прапрацаваць гэта пытаньне, падрыхтавацца за зіму, каб з вясны разгарнуць гэту справу ва ўсю шырыню, прыступіць да закладкі вопытных вучасткаў. За арганізацыю падрыхтоўчай працы ў першую чаргу трэба ўзяцца райінспэктару супольна з мэтбюро, прыцягнуўшы ў дапамогу сілы райаграноміі і саміх настаўнікаў.

Праца на школьнай зямлі павінна быць наладжана так, каб яна адпавядала наступным запатрабаваньням:

1. Дасьледваньнямі выклікаць зацікаўленасьць вучняў да пытаньняў земляробства наогул.

2. Выпрацаваць у вучняў нахіл да ўзорнага земляробства.

3. Паставіць так пытаньне, каб матар'ял, не прадугледжаны праграмай і школьным плянам, мог папаўняцца дасьледваньнямі на зямельнай дзялянцы.

4. Каб школьная паказальная дзялянка стала даступнай для акаляючага насельніцтва, каб насельніцтва мела магчымасьць навучыцца, як весьці гаспадарку пановаму, з большай выгадай, каб сяляне навочна бачылі выгады ад шматпольля.

Каб падрыхтаваць настаўніка да гэтай справы, трэба арганізаваць кароткатэрміновыя сельска-гаспадарчыя курсы, на якіх і трэба азнаёміць настаўніцтва з правіламі культурнага вядзеньня гаспадаркі.

Неабходна на некалькіх вытворчых настаўніцкіх райканфэрэнцыях разглядзець шэраг сельскагаспадарчых пытаньняў. Урэшце, магчыма галоўныя сельскагаспадарчыя тэмы ўклініць у праграму мэтгурткоў на мясцох, якія прапрацаваць пад кіраўніцтвам агранома або настаўніка, які больш-менш ведае сельска-гаспадарчую справу.

Толькі добра падрыхтаваны настаўнік зможа правільна арганізаваць працу на школьнай зямлі.

**А. Шэўчанка.**

*Віцебшчына.*

---

**У РСФСР.**

## За агранамізацыю вясковай школы.

На калегіі Галоўсацвыху РСФСР абмяркоўвалася пытаньне аб агранамізацыі вясковай школы. Дакладчык (тав. Руднёў) зазначыў, што вясковая школа 1 ступені не зьяўляецца яшчэ працоўнай і ня зьвязана з сельскай гаспадаркай.

Патрэбен асобны заканадаўчы акт ураду, у якім былі-б вызначаны абавязкі ўсіх савецкіх органаў у справе агранамізацыі школы.

Якія-ж мерапрыёмствы трэба правесьці ў адносінах самой школы? Праграма заняткаў павінна строга адпавядаць усім асаблівасьцям сельскай гаспадаркі данай мясцовасьці. Для кожнай школы трэба высунуць 2-3 найбольш ударных мерапрыёмстваў. Важна працягваць с.-г. працу са скончыўшымі школу падросткамі праз с.-г. гурткі пры школах.

Базай вытворчай с.-г. асьветы павінны быць школьныя дзялянкі і гаспадарка вучняў. Спосабы правільнай культуры набываюцца на школьнай дзялянцы і пераносяцца на свае градкі дома. Школьная дзялянка павінна складацца, прыкладна, з такіх частак: поле, гарод, ягаднік, пладовы гадавальнік, 10 садовых дрэў.

Ураджай са школьнай зямлі павінен ісьці на налажаньне гарачых сьнеданьняў і на дапамогу дзецям беднаты.

Разумеецца, нельга адразу агранамізаваць усе 85 тысяч вясковых школ РСФСР. У першую чаргу трэба вылучыць шэраг ударных раёнаў, пераварыць с.-г. прафшколы і школы сялянскай моладзі, а таксама некаторыя агравучасткі—у інструктарскія базы дзеля агранамізацыі школ у гэтых раёнах.

Самае галоўнае—гэта пытаньне аб с.-г. падрыхтоўцы і кансультацыі настаўніцтва. Шляхі да гэтага—наладжаньне курсаў-практыкумаў пры с.-г. тэхнікумах і с.-г. дасьледчых станцыях, практычныя сэмінары пры школах сялянскай моладзі і агравучастках.

Трэба школам, якія ня маюць зямлі, адвесьці дзелянкі, абгарадзіць іх, даць с.-г. прылады, насеньне, забясьпечыць с.-г. літаратурай і г. д.

Агранамізацыю школы трэба зьвязаць з надыходзячай веснавой сяўбой.

У абмеркаваньні пытаньня агранамізацыі вясковай школы прымалі ўдзел прадстаўнік Наркамземляробства РСФСР і НК РСІ СССР.

# Бялынкавіцкія благачынныя.

Хмурая асеньняя раніца. Марасіць дожджык. Гразь на шляху па калені. Але вучні **Бялынкавіцкай сямігодкі (Касьцюковіцкага район̆у, Магілеўскай акругі)** нават і ў такую раніцу не засталіся дома—усе, як адзін, шлёпаюць па топкай гразі да сьвету, да культуры. «Можа-ж калі гэта скончыцца, можа-ж, урэшце, зьвернуць увагу на нашу сямігодку і спынюць зьдзек над намі».

Ня трацяць надзеі вучні Бялынкавіцкай сямігодкі, тым больш, што і скаргу нават падалі на сваё гаротнае жыцьцё: падавалі райінспэктару, скардзіліся па камсамольскай лініі, пісалі ў газэту «Чырвоная Зьмена»... Падалі і чакаюць, чакаюць...

А выкладчыку матэматыкі ў Бялынкавіцкай сямігодцы **Кушнэру Андрэю Фамічу**—хоць бы што! Жывецца яму ня блага. Быў калісьці благачынным—прышлося кінуць, бо ня вельмі ганаровымі сталі ў нашы часы гэтыя духоўныя чыны. Зрабіўшыся «сьвецкім» чалавекам, трохі працаваў у Прапойскай сямігодцы, затым у Крычаве, але штосьці там народ няпрыльодны, няўжыўчывы. Адным словам, выбурылі Кушнэра і з Прапойску і з Крычава. І трапіў ён, небарака, урэшце, у бялынкавіцкую с мігодку. Вось тут—іншая рэч, тут і людзі—як людзі, сярод іх і Кушнэр—свой чалавек.

Жыве Кушнэр тут ужо чатыры гады, выкладае матэматыку, атрымлівае пэнсію—як і ўсе настаўнікі. Ну, а як выкладае—ці-ж гэта ўжо так важна?! Вучні нічога з яго выкладаньня не разумеюць, бо яны «дурні--ня ведаюць, што матэматыку трэба слова ў слова па кніжцы зубрыць»...

— Ну, балда! Чаго стаіш! Рабі!..—так крычыць Кушнэр на вучня, калі той стаіць каля дошкі і ня можа справіцца з заданьнем настаўніка.

Вучань дрыжыць ад страху, сьлёзы градам сыпюцца.

— Дурань! Сядай!.. Ня вучыцца табе, а сьвіней пасьці!—грозна прытупываючы нагой, дадае «благачынны».

А калі вучань на лекцыі сяго-таго не зразумеў і просіць растлумачыць, дык Кушнэру за тлумачэньнем далёка ісьці ня трэба:

— Дурак, таму і не разумееш! Марш дахаты!

І, крыху зьмякчыўшы тон, больш лагодна дадасьць:

— Ды табе і ня трэба разумець—галава ў цябе мохам парасла...

— Хто зразумеў, падымеце рукі!

Напалоханая дзетвара як па каманд зе ўзьнімае рукі.

— Значыцца, зразумелі?

— Зразумелі...

Ды як не зразумець такіх дасканалых тлумачэньняў?!

І жыве Кушнэр і «тлумачыць», аж чатыры гады «тлумачыць»!

Вучні ў Кушнэра падзяляюцца на тры катэгорыі: **лепшыя, подлыя і дурні.** Лепшыя, гэта—папоўскія, дзякоўскія, нэпманскія і кулацкія дзеці; подлыя—вясковая беднята, і, урэшце, катэгорыю дурняў складаюць вучні-камсамольцы. Мабыць, у такой ацэнцы вучнёўскіх катэгорыяў Кушнэр—не адзінок, бо першая катэгорыя запаўняе амаль што ўсю сямігодку. А беднята—гэта «валапугі, жабракі, жулікі; ім можна вучыцца хоць калі—могуць і пачакаць». Ды і карысьці з бедняка—ніякай. Іншая справа заможнік: той і сала паднясе, і мёду часам удружыць.

І міла Кушнэру кулацкае сала, есьць і мёдам запівае. А вучні гаруюць—лёсу свайму ня рады.

Што-ж робіць школьная і пэдагагічная рада? Чаму ня чутно іхнага голасу? Яны чамусьці маўчаць, іх такі зьдзек над вучнямі ня турбуе.

Уся надзея на **загадчыка сямігодкі Піскуна Цімоха.**

О, ён чалавек строгі, у яго—трымайся! Ён вам ня Кушнэр, ня будзе доўга цацкацца!

— Я вас, падобных камсамольцаў, буду пачкамі кідаць вон са школы! Я гэту гразь патапчу!

Вось як бароніць вучняў Піскун Цімох, вось як выхоўвае ён кадры будучых будаўнікоў новага ладу.

Топча Піскун камсамольскую ячэйку, топча і вучнёўскае самакіраўніцтва, ня лічыцца з грамадзкім правам падлеткаў.

— Вось вам кандыдат у старасты вучкома,—прапануе Піскун на пасяджэньні кляскомаў школы.

— Ня хочам яго, ён кулачок,—артачацца вучні,—у нас сваіх кандыдатаў хопіць, з бедняты...

Галаснулі. За кандыдата-кулачка—мала галасоў. Правалілі.

— Як?! Майго вылучэнца правалілі?!—як агнём падпякло Піскуна, і пасыпалася на старшыню сходу, камсамольца, вучня VI клясы—«жулік, басяк» і іншыя «пэдагагічныя прыгоды».

Аднаго разу, у кастрычніку месяцы г. г., абвясьцілі вучням VII-ай клясы, што ім будуць раздаваць у школьнай бібліятэцы падручнікі. У вызначаны дзень усе сабраліся, і бібліятэкар пачаў раздаваць доўгачаканыя кніжкі. Раптам адкуль не вазьміся загадчык Піскун, п'яны, ледзь на нагах трымаецца.

— Вон адсюль! Сабакі!—І вучні—хто куды: хто праз дзьверы, хто праз вакно, абы цэлым вынесьціся.

Атрымаў Піскун 150 рублёў на вучнёўскі інтэрнат і, як відаць, зажыліў іх сабе—ніхто гэтых грошай і ў вочы ня бачыў, а вучні па некалькі вёрст штодня вандруюць у школу. Ды калі так і надалей будзе, дык, мабыць і хадзіць ня будзе каму, бо вучні рыхтуюцца кідаць школу. Іншага спосабу пазбавіцца ад «дабрадзеяў благачынных» бедная дзетвара ня бачыць.

Школа развальваецца, настаўнікі зьдзекуюцца з вучняў, асабліва з камсамольцаў, прыходзяць на заняткі п'янымі. Узаемаадносіны паміж імі і вучнямі з кожным днём псуюцца ўсё больш і больш Вучні ня слухаюць лекцый п'яных настаўнікаў, робяць «байкоты», не адказваюць на пытаньні, дэманстрацыйна пакідаюць клясы.

Пэдагагічная і школьная рады маўчаць, ад райінспэктара нічога ня чутно, загадчык школы п'янствуе, буяніць, зьневажае вучняў, топча ў гразь лепшыя правы грамадзкага пачуцьця новага пакаленьня, а за імі настаўнікі бясчынствуюць, тэрарызуюць зьбянтэжаную дзетвару.

**«Мы апісваем толькі дзесятую частку таго, што ў нас робіцца, бо ад вялікага жалю ня можам апісаць усіх фактаў».**

Так піша вучнёўскі актыў у складзе **дзевяці чалавек**, сярод іх чатыры камсамольцы, адзін селькор «Крестьянской Газэты». Зьвяртаючыся за дапамогай да „Савецкай Беларусі", яны разам з тым просяць рэдакцыю ні ў якім разе не выдаваць іхных прозьвішчаў, каб ня трапіць у «апалу» да грозных «пэдагогаў».

Спачуваем вам, дарагія таварышы, і прозьвішчаў вашых ня выдадзем. А калі прыедзе да вас прадстаўнік Наркамасьветы, або Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі, дык іх вы не палохайцеся: яны дапамогуць вам пазбавіцца і п'яніц, і катаў, і нэпманскіх прыслужнікаў, і іншых «благачынных дабрадзеяў».

**Я. П.**

# Цяжкасьці пры навучаньні артаграфіі.

Як вядома, вясковыя дзеці прыходзяць у школу ў масе сваёй бяз жаднай дашкольнай падрыхтоўкі наогул і артаграфічнай у прыватнасьці. Пэдагагічнай думкай даведзена, што перш, чымся прыступіць да навучаньня дзяцей пісьму, патрэбна сталая падрыхтоўка мускулаў рукі дзіцяці, асабліва пальцаў. І толькі пасьля гэтага можна ўжо прыступіць да навучаньня пісьму. У нашых вясковых умовах пытаньне падрыхтоўкі мускулаў рукі дзіцяці да пісьма ўскладаецца не на дашкольніка, а на самога настаўніка, і ў залежнасьці а таго, як умела і практычна настаўнік вырашыць гэту задачу, вызначаецца тое ці іншае становішча артаграфічнай граматнасьці дзяцей

Навучаньне дзіцяці пісьму ставіць перад сабою задачу, каб пры пісьме вучань прывучаў сваю руку пісаць слова не па літарах і складох, а адразу цэлае слова, пры гэтым, каб ён пісаў артаграфічна правільна. Адгэтуль асноўная задача настаўніка—паставіць справу так, каб працэс артаграфічнага пісьма зрабіць аўтаматычным, прычым гэта аўтаматычнасьць павінна быць аснована на зрокавай памяці і прывычных рухах рукі. З самага пачатку пры навучаньні дзяцей пісьму настаўнік павінен памятаць наступныя правілы: вочы дзяцей не павінны бачыць ніводнага няправільнага вобразу слова, рука не павінна рабіць ніводнага няправільнага руху.

Кожны настаўнік ведае, што памылкі, якія дзеці дапушчаюць з самага пачатку навучаньня пісьму, даюць сябе адчуваць на працягу ўсяго прабываньня вучняў у школе, а то нават і на працягу ўсяго жыцьця.

Шмат цяжкасьцяй у справе першапачатковага навучаньня артаграфіі, але гэтых цяжкасьцяй куды больш спаткаеш у працы з дзяцьмі, якія ў артаграфічных адносінах ужо сталі пакалечанымі. Перавучваць нанова шмат цяжэй, чымся навучаць з самага пачатку. Гэтым перавучваньнем настаўнікам масавае школы хочаш-ня-хочаш, а прыходзіцца займацца, асабліва ў другім канцэнтры сямігодкі (маецца на ўвазе вясковая сямігодка, куды зьбіраюцца дзеці з розных вясковых школ).

Нямала таксама цяжкасьцяў у справе навучаньня правільнаму артаграфічнаму пісьму трэба аднесьці і за кошт самога правапісу. Нашы літары, пры дапамозе якіх мы складаем словы і сказы, не заўсёды і ня ўсе адпавядаюць тым гукам, якія ловіць наша вуха, а зрокавыя вобразы слоў у большасьці сваёй не адпавядаюць слыхавым вобразам гэтых самых слоў. Да перашкодаў правільнаму навучаньню пісьму трэба яшчэ аднесьці і некаторыя спосабы гэтага навучаньня. Возьмем к прыкладу практыкаваньні, у якіх прапушчаны літары, няправільна напісаны словы, а іх трэба напісаць правільна. Такога роду практыкаваньні калі і ўжываць, дык толькі дзеля кантролю і праверкі ведаў дзяцей, прычым да гэтай справы трэба падыходзіць вельмі і вельмі асьцярожна і ў рэдкіх выпадках.

Значна перашкаджае справе навучаньня артаграфіі адсутнасьць мэтадычнай літаратуры па гэтай галіне.

Настаўнік прымушан браць выпадковы мэтадычны падручнік, калі ён ёсьць, і кіравацца ім, або карыстацца тымі дапатопнымі спосабамі, якімі навучалі яшчэ нас саміх; наогул-жа працуе кожны так, як яму ўздумаецца, як дыктуе яго розум, а розум, вядома, не ва ўсіх аднолькавы. У гэтым, разумеецца, ня наша віна, а толькі наша, настаўніцкая, бяда.

У сучасны момант перад намі стаіць пытаньне аб пераглядзе нашых мэтадычных ведаў; усё лішняе і непатрэбнае трэба выкінуць. Нам, масавым настаўнікам, трэба цьвёрда памятаць наступнае: першае—гэта перавучыць самога сябе праз падняцьце кваліфікацыі ў справе навучаньня артаграфіі, і другое—у сваёй штодзённай школьнай практыцы перайсьці да новых спосабаў і прыёмаў пры навучаньні дзяцей правільнаму артаграфічнаму пісьму.

Урэшце, трэба яшчэ адзначыць адзін момант пры навучаньні правільнаму пісьму—гэта арыентацыя на тую ці другую групу дзяцей. Як вядома, памяць як зрокавая, слыхавая, разумовая, так і мускульна-рухацельная не ва ўсіх дзяцей аднолькава, а таму перад настаўнікам стаіць задача: да кожнай такой групы, нават да вучня трэба прыстасоўваць тыя спосабы і прыёмы, якія больш падыходзяць да тэй або іншай групы.

**Антон Лёсік.**

*Койданава.*

---

# Калёквіумы нельга ператвараць у экзамены.

У «Працаўніку Асьветы» № 11 тав. **Малыхін** узьняў пытаньне вялікай пэдагагічнай важнасьці — пытаньне адносна калёквіумаў.

Аб тым, што калёквіумы для выяўленьня ведаў вучняў зьяўляюцца найбольш мэтазгодным спосабам, гэта факт, не патрабуючы доказаў, але мэтазгоднымі яны будуць толькі тады, калі яны будуць сапраўднымі калёквіумамі.

Мне прыходзілася быць сьведкаю небальных вясковых калёквіумаў і гарадзкіх, але як на першых, так і на другіх я ня бачыў сапраўдных калёквіумаў, а бачыў самыя сапраўдныя экзамены, з тэй толькі розьніцай, што за сталом ня было людзей у галунох.

Прыяжджаючыя для правядзеньня калёквіумаў асобы звычайна садзяць за стол і толькі некаторыя сядуць на вольную парту. Старшыня камісіі абвяшчае, што пачынаюцца калёквіумы, а ў дзяцей у гэты час душа, як кажуць, перамяшчаецца ў пяткі. Спачатку, даецца пісьмо, дыктоўка, або пераклад, другім ідзе пісоўвая арытмэтыка, прычым задачка даецца на ўсе арытмэтычныя дзеяньні з задачніка Малініна і Бурэніна або з Барысава і Сатарава, а аб Лойку ці Ланкову на калёквіумах не ўспамінаюць. Далей пачынаецца споведзь па вусных пытаньнях, і на кожную тэму ці прадмет маецца свой «поп». На гэтых споведзях вучань да таго стоміцца, што апошнім папам ужо ня можа даваць адказаў, хоць і веды мае.

Тав. **Я. Ж.** у «Працаўніку Асьветы» № 13 піша, што сяляне пасьля калёквіумаў вельмі хвалілі сучасную школу і казалі, што дзеці цяпер больш ведаюць, чымся ведалі раней. Правільна, тав. Я. Ж., сяляне кажуць, што дзеці ведаюць больш, чым ведалі раней, і сапраўды яны ведаюць болей, чым ведалі такія-ж дзеці раней. Але-ж хіба ў калёквіумах у нас усё-ж такі ёсьць, бо вы самі кажаце, што ў вас была камісія з начальнікаў, і дзеці добра ведалі, што тут трэба даваць адказы, як кажуць, точка ў точку. Я ня зьбіраюся даказываць, што тыя калёквіумы, якія мы праводзім, ня маюць у сабе станоўчых бакоў, але іх пакуль-што вельмі мала.

На мой погляд, калёквіумы трэба праводзіць такім чынам:

За тыдзень ці за паўтара настаўнікі суседніх школ, дагаварыўшыся паміж сабою, робяць адны да другіх экскурсіі з вучнямі-выпускнікамі. Першы дзень дзеці знаёмяцца адны з другімі,

# Пэдтэхнікум—на дапамогу масаваму настаўніку.

(Вопыт Мсьціслаўскага Белпэдтэхнікуму).

У сучасны момант, калі так востра стаіць пытаньне перападрыхтоўкі настаўніцтва, нельга абыйсьці ролі ў гэтай справе пэдагагічных тэхнікумаў, якія ў сваей працы павінны быць апорнымі пунктамі ў штодзённай перападрыхтоўцы настаўніцтва. У гэтым кароценькім артыкуле я хачу зазначыць некалькі канкрэтных форм, якія ўжыў наш тэхнікум і якія больш-менш у жыцьці сябе апраўдалі.

З пачатку гэтага году значна ажывілася праца па «Пэдтэхнікуму Дома». Запісалася на яго ў нас каля 40 чал. Настаўнікі ўсур'ёз узяліся за гэту працу. У апошні час у нас асабліва адчуваецца напор на рэгістрацыю ў «Пэдтэхнікум Дома». Мы правялі 2 мэтадычных канфэрэнцыі, а 3-ю правядзём у зімовы перапынак. Да гэтага часу застаецца не вырашаным пытаньне з літаратурай: тэхнікум можа даць зусім нязначную колькасьць і бліжэйшым слухачам, а прафсаюзы і інспэктарыят тут амаль што нічога не зрабілі. На паперы засталася і пастанова пэдагагічнай нарады пэдтэхнікумаў аб хутчэйшым выданьні матар'ялаў па „Пэдтэхнікуму Дома". Як найхутчэй выдаць асобным выданьнем праграмы пэдтэхнікумаў.

З пачатку гэтага году мсьціслаўскі пэдтэхнікум разгарнуў значную працу ў райметбюро. Усе мэтадыстыя тэхнікуму ўваходзяць у склад райметбюро, а кіраўнік пэдпрактыкуму тэхнікуму зьяўляецца старшынёй райметбюро. Праз райметбюро наладжваюцца сыстэматычныя выезды як настаўнікаў-мэтадыстых, так і ўсіх настаўнікаў тэхнікуму і вопытна-практыкавальнай школы на ўзорныя лекцыі пры пэдрадах.

Пэдагагічны практыкум і вопытна-практыкавальная школа паступова набываюць вялікае значэньне ў перападрыхтоўцы вясковага настаўніка. Настаўнікі вясковых і гарадзкіх школ запрашаюцца на пэдпрактыкум і канфэрэнцыю па пэдпрактыкуму. Аб скарыстаньні пэдпрактыкуму ў перападрыхтоўцы настаўніцтва быў пастаўлен даклад на раённай канфэрэнцыі. Вопытна-практыкавальная школа заўсёды адчынена для вясковага настаўніцтва. Па дакладу нашага тэхнікуму прэзыдыюм Аршанскага АВК прапанаваў акр'інспэктарыяту і РВК як найхутчэй вызначыць вольны дзень вясковаму настаўніцтву для кансультацыі ў тэхнікуме і вопытна-практыкавальнай школе. Гэта дасьць магчымасьць настаўніцтву рэгулярна наведваць тэхнікум і школу ў часе іх працы дзеля атрыманьня кансультацыі ў мэтадыстых, назіраньня за ходам працы ў школе і кансультацыі ў груповодаў школы.

Вясной гэтага году мы правялі канфэрэнцыю скончыўшых у мінулым годзе пэдтэхнікум з удзелам настаўнікаў. Праўда, гэта канфэрэнцыя, не па віне тэхнікума, а па віне бюракратычнага падыходу да гэтае справы раённага інспэктара, была немнагалюдная (некаторыя настаўнікі прыехалі аж з Мазырскае акругі, а мсьціслаўскія настаўнікі аб гэтым не ведалі), але яна прайшла надзвычайна жыва. Удзельнікі самі высоўвалі цэлы шэраг жыцьцёвых пытаньняў з вопыту працы на мясцох і гэтыя пытаньні былі дасканала абгавораны і высьветлены. Гэта канфэрэнцыя мела, бязумоўна, вялікае значэньне для ўдзельнікаў.

Ня меншае значэньне гэта канфэрэнцыя мела і для тэхнікуму, які падлічыў вопыт праламленьня тэарэтычна-мэтадычных пытаньняў у жыцьці і працы сваіх выхаванцаў.

У штодзённым жыцьці настаўніцкі калектыў тэхнікуму абслугоўвае настаўніцтва сваім удзелам у масавай пэдагагічнай і культасьветнай працы. Настаўнікі тэхнікуму і школы прымаюць удзел у працы мэтадычных гурткоў пры Доме асьветы. Працуюць гурткі і пры тэхнікуме; яны спэцыяльна абслугоўваюць настаўнікаў, як напр., гурток дашкольны, які, апрача таго, што падрыхтаваў 35 дашкольнікаў для ўсёй Аршаншчыны, дае магчымасьць працаўнікам дзіцячага саду атрымліваць спэцыяльную дашкольную падрыхтоўку. Працуе гурток фізвыху для настаўнікаў, гурток па пэдалёгіі і праводзяцца спэцыяльныя даклады па жывых мэтадычных пытаньнях на раённых канфэрэнцыях.

Значная ўвага ўдзяляецца і палітычнаму выхаваньню настаўніцтва: тэхнікум абслугоўвае савпартшколу ўзвышанага тыпу, у якой амаль што палова слухачоў—настаўніцтва. Настаўнікі тэхнікуму зьяўляюцца кансультантамі па паліт. і прафасьвеце ў самаадукацыі настаўніцтва раёну. Прымаў удзел тэхнікум і ў акруговых настаўніцкіх курсах. Настаўніцкія курсы ў летні час, бязумоўна, сталая форма перападрыхтоўкі настаўніцтва, але з тэй прычыны, што курсы адбываюцца ў акрузе (Ворша), мы актыўнага ўдзелу да гэтага часу не маглі ў іх прымаць. Вельмі пажадана, каб былі наладжаны і раённыя курсы ў Мсьціслаўлі, дзе настаўніцтва тэхнікуму прыняло-б шчыры удзел у іх працы. Пажадана, каб іншыя тэхнікумы абмяняліся вопытам сваёй працы ў гэтай важнай галіне.

**В. Серафімаў.**

---

гуляюць, пяюць, а вечарам вядуць гасьцей да сябе начаваць. Назаўтра прыходзяць усе ў школу, дзе пішуць, чытаюць з выяўленьнем праграмна-граматычных моўных законаў, ці робяць што іншае. Усё гэта робіцца не як экзамен, а проста дзеля таго, каб можна было бачыць, як мы і вы дасьпелі за год. Дзеці, вядома, будуць старацца, каб напісаць прыгажэй і без памылак, і ўсе іх посьпехі і веды будуць як на далоні. У наступны дзень экскурсія накіроўваецца ў другую школу, дзе таксама праводзяць якую-небудзь працу, і г. д. Усе гэтыя працы захоўваюцца і прадстаўляюцца камісіі на разгляд. У часе экскурсіі з дзецьмі настаўнікі азнаёмяцца з вучнямі іншых школ і могуць выказаць камісіі сваю думку, а таксама і слабейшыя дзеці ўбачаць сваю слабасьць і згодзяцца з тым, што яны слабыя, і ім трэба яшчэ годзік павучыцца ці варта рабіць падрыхтоўку да калёквіумаў, ці варта гаварыць пра іх на кожным кроку? Мне здаецца, што рыхтавацца можна і нават трэба, толькі падрыхтоўку гэту трэба рабіць не да калёквіумаў, а да заканчэньня вучэбнага году.

На агульным-жа вечары можна абвясьціць, каго камісія лічыць магчымым выпусьціць, а каго не.

На гэткім вечары трэба, каб вучні паказалі свае веды жыхарству ў якасьці дэклямацыі, расказаў аб тым, чаму навучыліся яны ў школе.

Гэты вечар, вечар заканчэньня вучэбнага году, павінен паказаць селяніну ці рабочаму, што школа, сапраўды выхоўвае ў сваіх сьценах будучых будаўнікоў сацыялізму.

Так я ўяўляю сабе калёквіумы.

**В. Лявонік.**

*Мазыршчына.*

# З ПРАКТЫКІ ВЯСКОВЫХ АСЬВЕТНІКАЎ.

## Як мы ўцягнулі беднату ў школу.

(Юравіцкая сямігодка, Мазырскае акругі).

Яшчэ задоўга да пачатку заняткаў у школе пачалі паступаць заявы аб прыёме ў «0» і I групу школы. К пачатку верасьня ў «0» гр. было пададзена 42 заявы, у I гр.—30 заяў. Здавалася-б, што ўсё абстаіць вельмі добра з укамплектаваньнем азначаных груп, але гэта толькі здавалася. Заявы былі пададзены недаросткамі, пераросткамі і асобамі, якія павінны былі адразу-ж пайсьці ў нацыянальныя школы, якія таксама к таму часу кепска былі ўкамплектаваны.

Школьная рада задалася мэтаю даведацца—колькі ўсяго ў мястэчку і вёсцы Юравічы ёсьць дзяцей, належачых абучаньню у «0» і I групе. Настаўнікі з вучнямі старэйшых груп школы абышлі ўсе хаты і перапісалі ўсіх дзяцей, годных для «0» і I гр. Праз два дні перад вачыма школьнае рады былі поўныя зьвесткі аб патрэбных школе дзецях. Перапіс паказаў, што далёка ня ўся беднаата свачасова паклапацілася аб накіраваньні сваіх дзяцей у школу.

Згодна сьпісам перапісу, школаю быў зроблен напамін беднаце аб найхутчэйшай дасылцы дзяцей у школу. Толькі пасьля гэтага напаміну падалі заявы аб прыёме тыя, хто сапраўды патрэбен быў школе—школьнікі-бедьнякі.

У «0» групу залічана 40 асоб; з пададушых-ж 42 асоб да перапісу залічана толькі 25, рэштка 15—уцягнуты ў школу з ліку «выкрытай» беднаты. У I гр. залічана 51 асоба; з пададушых да перапісу 30 асоб залічана 12, рэшта месц запоўнена «выкрытай» беднатой.

Вось якім спосабам школа прывабіла да сябе беднату вёскі і мястэчка. Напэўна, можна сказаць, што дзеці пры адсутнасьці ўвагі з боку школьнае рады зьявіліся-б у школу толькі позьняй восеньню, або і зусім не зьявіліся-б.

Сёлетні перапіс дапаможа ўкамплектаваньню „0“ групы ў будучым годзе, бо 6-цігадовыя дзеці ўжо ўзяты на вучот.

Лукашэвіч.

## Як абудзіць актыўнасьць настаўнікаў?

У апошнія гады жыцьцём высунута тая думка, што клясныя настаўнікі ў сямігодках, пры ўмовах самакіраваньня ў школе, ня толькі не патрэбны, але нават і шкодны. У гэтым-жа навучальным годзе ў шмат якіх школах інстытут клясных настаўнікаў скасован.

Якія-ж вынікі гэта дало? А вельмі адмоўныя. Амаль што ўсе настаўнікі абмежаваліся адвэй вучобай і ў ёй зарыліся, правядзе лекцыю і лічыць, што гэтым яго справа скончана. Яго амаль што ня цікавяць паводзіны вучняў, школьнае жыцьцё наогул і г. д.

Настаўнік павінен быць ня толькі выкладчыкамі, але выхаваўцай і будаўніком школы, ён павінен быць зьвязан са школай і з вучням сотняй моцных ніцяў. Каб гэтага дасягнуць, я прапаную наступнае.

Кожнаму настаўніку даручыць кіраўніцтва тэй ці іншай галінай школьнага жыцьця. Напрыклад: аднаму даручыць выхаваўчую працу і ўскласьці на яго адказнасьць за гэта. Ён будзе разглядаць і выраш'аць, па магчымасьці, адпаведныя здарэньні і моманты разам з вучнямі, сачыць за правільнай працай самакіраваньня вучняў, сачыць за выхаваўчай працай паасобных настаўнікаў і ўцягваць іх у гэту працу. Другому даручыць гаспадарчыя пытаньні, трэцяму санітарна-гігіенічныя, чацьвертаму—мастацкую і г. д. Гэтым самым усе настаўнікі ўцягнуцца і будуць удзельнічаць ва ўсім школьным жыцьці. Разам з гэтым, лепш будуць заўважвацца ўсе недахопы і адмоўныя бакі ў школе наогул, лягчэй і хутчэй будуць яны зьнішчацца. Гэта зьвяжа настаўніка са школаю, са ўсімі школьнымі пытаньнямі, з вучнямі і дасьць станоўчыя вынікі.

Карысьць ад такой пастаноўкі справы можа падцьвердзіць практыка Тураўскае бел. сямігодкі (Мазыршчына), дзе такая сыстэма ўжо праведзена ў жыцьцё.

М. Сянчук.

*Мазыршчына.*

## Школьныя рады трэба аздаравіць.

Адным з балючых момантаў у працы нашай вясковай школы, а часта і гарадзкой, зьяўляецца бязьдзейнасьць школьных радаў.

Прычыны гэтага розныя. Папершае, з боку настаўніцтва няма патрэбнай пашаны да гэтай арганізацыі і яны глядзяць на школьную раду як на нямінучую фармальнасьць; дзякуючы гэтаму ня прымаюцца захады да ажыўленьня іх дзейнасьці. Падругое, безадказнасьць прадстаўнікоў у школьныя рады ад грамадзкіх арганізацый і савецкіх органаў. Амаль што няма выпадку, каб прадстаўнік тэй ці іншай арганізацыі рабіў справаздачу перад арганізацыяй ці ўстановай, якая яго паслала ў школьную раду.

Да гэтага часу прывыклі думаць, што функцыі школьнай рады не павінны ісьці далей гаспадарчых пытаньняў, прыёму і звальненьня вучняў і г. д. Уся-ж педагагічная праца праходзіць міма школьнай рады. З гэтай прычыны школьныя рады хутка заміраюць, а настаўнікі скардзяцца, што ніяк нельга склікаць пасяджэньня рады.

Усё гэта—вынік таго, што вельмі часта настаўнік глядзіць на школьную раду як на пустую справу, забываючы, што школьная рада ў рамках адпаведнага статуту заклікана кіраваць усім школьным жыцьцём

Часта ў склад школьнай рады ўводзяцца асобы больш «ганаровыя»—з ліку заможнай часткі насельніцтва ў той час, калі ў нас практычна вырашаецца пытаньне матар'яльнай дапамогі школьнай беднаце.

Жанчын вельмі цяжка знайсьці ў складзе школьных радаў.

Са ўсяго сказанага вынікаюць наступныя задачы:

1) Настаўніцтва павінна ясна ўявіць сабе ролю школьных радаў.

2) Арганізацыі і ўстановы, якія высылаюць сваіх прадстаўнікоў у склад школьнай рады, павінны абавязаць іх рабіць перыядычныя справаздачы.

3) Уводзіць у склад школьных радаў прадстаўнікоў бядняцкай часткі насельніцтва.

4) Павялічыць колькасьць жанчын у складзе школьных радаў.

А. Дабравольскі.

*г. Чавусы.*

## З вёскі.

— Настаўнікі Вульскага раёну (Полаччына) скардзяцца, што пэнсія ў іх вывыплачваецца кавалачкамі і са спазьненьнем. Настаўнікі, якія арандуюць школьную зямлю, ня маюць права атрымаць з каапэратыву мукі на хлеб.

— Загадчык Шамаўскай сямігодкі (Мсьціслаўскі р., Арш. акр.) заняў сабе пад кватэру 2 пакоі, а вучні займаюцца ў цесьнаце. Старшыня сельсавету рабіў захады да ўпарадкаваньня школы, але намесьнік старшыні падтрымлівае загадчыка школы.

— У Восаўскай школе (Рэчыцкі р., Гом. акр.) пасьля кіно-пастаноўкі застаецца шмат бруду, паламаныя лаўкі і сталы, парваныя плякаты і малюнкі, вокны бяз шыбаў. Трэба школу пазбавіць ад такіх налётаў.

— У пасёлку Сьпей (Цярахоўскі р., Гом. акр.) два гады працаваў у школе настаўнік Швадронаў Цімох. Працаваў ён блага, вучняў біў. Урэшце, напазычаўшы ў сялян каля 150 руб. нібы на вясельле, Швадронаў уцёк нямаведама куды.

— Загадчык Жыліцкай с-г. школы (Бабруйскай акр.) Дудкоўскі западозраным у рабселькорстве вучням робіць выгавар і абзывае іх сабакамі. Не па смаку яму крытыка яго непрыстойных учынкаў, якая часта друкуецца ў насьценгазэце і ў «Камунісьце».

— Вёска Падарэсьсе (Старадарожскі р., Бабруйшчына) налічвае 240 двароў. Пяць год таму назад там згарэла школа. У дзень 11-ай гадавіны кастрычніка ў Падарэсьсі адбылося ўрачыстае адчыненьне новай школы, пабудаванай пры пільным удзеле сялянства.

